# КАНСПЭКТ

№ 2 (6) жнівень 2000г.

Незалежнае выданьне полацкіх студэнтаў







## Слова да чытача

*Добры дзень, Шаноўны Чытач. Да цябе зьвяртаецца рэдакцыя незалежнага моладзевага выданьня "Канспэкт". Пасьля летніх вакацыяў мы зноў маем радасьць сустрэцца і паразмаўляць з Табой на старонках нашае газэты. Вакацыі прайшлі. Ты адпачыў на сваіх практыках, дасканала вымерыўшы ўвесь Наваполацак геадэзічнымі выведкамі, сабраў фальклёр у навакольных вёсках, раскапаўшы пры гэтым некалькі курганоў і выхаваў усіх дзяцей у лагерох адпачынку. Быць можа, ты ўсё лета касіў траву ды канюшыну ў вёсцы, ці, пацягваючы піўко, выходзіў на вуліцу толькі каб здаць бутэлькі і набыць рыбкі - так ці інакш мы шчыра спадзяемся, што адпачынак быў добрым. Ты — поўны сілаў і зноў гатовы вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца, ну хаця б да першай стыпэндыі. Мы таксама не сядзелі склаўшы рукі і не падсмажваліся на курортах. За час летняга адпачынку рэдакцыйны склад нашае газэты зьмяніўся, зьявіліся новыя рубрыкі, у якіх Ты можаш знайсьці шмат цікавага для сябе. Мы шчыра спадзяемся, што ў буднях цяжкой вучобы "Канспэкт" стане для цябе выйсьцём з гэтае рэальнасьці ў іншы вольны сьвет Сапраўднага Студэнта!*

*рэдакцыя «Канспэкта»*



# Зварот да першакурсьніка

Вітаем цябе, мужны першакурсьнік. Чаму мужны? Ды, напэўна,таму, што нягледзячы на выкладчыкаў, якія гразіліся выгнаць цябе з іспыту, адабраўшы апошнія шпоры; тваіх сяброў, якія казалі што пры такім касьмічным конкурсе 9,99999 мэдалістаў на месца з тваім атэстатам да ўнівэра лепей нават не падыходзіць; ды на вусатых прапаршчыкаў з ваенкамату, апанаваных нецярпеньнем ускласьці на цябе ганаровы абавязак абараняць радзіму ад НАТО, вахабітаў дый іншай рознай брыдоты, першага верасьня табе ганарова ўручылі дакумант, у якім чорным па беларуску напісана, што ты ёсьць СТУДЭНТ !!! Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. А мы, у сваю чаргу, як людзі больш - меньш дасьведчаныя, параім табе якім чынам застацца гэтым самым студэнтам да сканчэньня унівэру.

Увогуле, у колах вольнага студэнцтва лічацца, што ўласна студэнтам зьяўляецца той, хто пасьпяхова здаў сваю першую зімовую сэсію , таму не зьдзіўляйся, калі твае сябры – другакурсьнікі падчас перакуру будуць ласкава называць цябе “абітурай”. Не крыўдуй на іх, яны старэйшыя і мудрэйшыя, тым больш, што здаўшы сэсію і як сьлед адзначыўшы гэтую знамянальную падзею ты таксама аўтаматычна становішся сапраўдным студэнтам. Дарэчы, наконт паленьня ва ўнівэрсытэце. Табе, як чалавеку новаму, будзе карысна ведаць, што згодна з загадам рэктара ад 20 красавіка 2000 ва ўсіх будынках унівэра паліць строга ЗАБАРОНЕНА і ты павінен штораз на перапынку бегаць на вуліцу, каб высмаліць пару папяросаў. Чыста тэарэтычна ты канешне можаш паспрабаваць паліць дзесьці ў куточку прыбіральні. Можа нават табе пашанцуе, і ты атрымаеш задавальненьне ад гэтага, але займацца такімі экстрэмальнымі відамі спорту мы б табе ня раілі, бо досыць вялікія шанцы вылецець з ALMA MATER са сьвістам.

Зараз колькі парадаў наконт адносінаў з выклад-чыкамі.Запомні да канца першага курса жалезнае пра-віла:1-ае. ВЫКЛАДЧЫК ЗАЎСЁДЫ МАЕ РАЦЫЮ 2-ое. КАЛІ ВЫКЛАДЧЫК НЯ МАЕ РАЦЫІ ГЛ. ПУНКТ 1. Як паказвае практыка стасункаў з выкладчыцкім складам роднай ВНУ на большасьць зь іх лягічныя аргумэнты ды довады ня дзейнічаюць. Такім чынам, уступаючы ў спрэчку з выкладчыкам ты рызыкуеш застацца яго ворагам да сканчэньня навучаньня, а калі апошні вельмі пажадае, то гэтае самае сканчэньне пэрсанальна для цябе можа надыйсьці надзіва хутка – напрыклад, пасьля чарговай сесіі. Але не пужайся: выкладчык таксама чалавек. Так, так – чалавек, са сваімі недахопамі і слабасьцямі, а таму, прыкладам, ня здаўшы чарговы залік, ты можаш пусьціўшы слязу і, распавядаючы, як ты на працягу цэлага сэмэстра ўначы блукаў па спячым горадзе ды падкормліваў бяздомных кошак ды сабачак і ня меў мажлівасьці наведваць усе лекцыі Глыбока Паважаемага Табой Выкладоўцы. Калі ж “загружае ” да ўсяго яшчэ і прыгожая дзяўчына, то залік у кішэні. Шанцы на тое, што ён паверыць табе вельмі вялікія (аўтар гэтага артыкула сам неаднаразова так рабіў, спасылаючыся на кепскае здароў’е досыць доўгі час), але май на ўвазе, што гэты прыём спрацоўвае, як правіла, толькі на працягу першага курса, бо выкладчык цябе банальна шкадуе. Пару словаў варта сказаць пра падрыхтоўку да лекцыяў ды сэмінараў. Тут складаней. Канешне, пэўны час ты можаш шчыра скатваць заданьні ў больш сумленных аднакурсьнікаў (павер нам, ёсьць і такія), але з надыходам сэсіі ты ўсё роўна будзеш вымушаны вучыць, вучыць і яшчэ раз вучыць, забыўшыся на піва, танцы і шмат іншых прыемных рэчаў. Але не губляйся: існуе такая рэч, як шпоры і бомбы. Мы маем надзею, што ты ўжо пазнаёміўся зь імі падчас уступных іспытаў. Адзінае, што рэальна можна параіць – не трапляйся!!! Бо, як гэта ня дзіўна, большасьць выкладоўцаў цярпець ня могуць, калі хтосьці сьпісвае, і , калі па маладосьці і несьвядомасьці табе могуць даравацъ першы раз, то пазьней кара будзе жорсткай і хуткай! Таму, як паказвае практыка, большасьць студэнтаў усё ж такі вымушаныя вучыцца. У тым выпадку, калі ты ўпарты абібок, можаш паспрабаваць прыняць актыўны ўдзел у культурным жыцьці роднага ПДУ. Напрыклад, калі ў цябе ёсьць пачуцьцё гумару, ты можаш удзельнічаць ва ўнівэсытэцкіх гульнях КВЗ, некаторыя так і робяць, прычым не бяз посьпеху для сябе. Таксама ты можаш заняцца спортам і абараняць гонар унівэру на спаборніцтвах. Гонар ты можа і не абароніш, але будзеш мець добрую адмазку ад заняткаў фізвыхаваньнем. Так-так, не зьдзіўляйся, фізуха для ўсіх аднолькавая і непазьбежная. Канешне, ты можаш закасіць пад інваліда вайны ў Чачэніі і не наведваць свайго роднага фізрука, але часамі гэта бывае зьвязана з пэўнымі цяжасьцямі.Так, разслабаны тваёй юрыдычнай недатыкальнасьцю фізрук можа прымусіць цябе займацца фізухай тэарэтычна. Як? Напрыклад напісаць рэферат пра найбольш распаўсюджаныя “адмазкі” студэнтаў ад фізвахаваньня, ці падрабязна выкласьці на паперы асаблівасьці той хваробы, якая не дазваляе сумленна гартаваць сваё брэннае цела і дух да будучага разьмеркаваньня ў Чарнобыльскую зону.

***Зразумела, што багатае на падзеі студэнцкае жыцьцё не абмяжоўваецца “пірацкім” паленьнем па кутох прыбіральняў, “забіваньнем” на лекцыі і сэмінары, ці скатваньнем чарговага заданьня па фізпадрыхтоўцы. Канешне не. Сьвет студэнта значна большы. Гэта і дыскатэкі і агульныя сьвяты (правільнаму сьвяткаваньню якіх будзе прысьвечаны матэр’ял у наступным нумары), рамантычнае каханьне і шмат чаго іншага. А пакуль што, браце першакурсьнік, трымайся, і да наступнай сустрэчы на старонках нашае газэты.***

***Сяржук Стахоўскі.***

# РЭЧЫ ЯКІЯ ТЫ МУСІШ ВЕДАЦЬ ПРА "ГРАДУСЫ"




### Дзе забаронены продаж алькагольных напояў?

Продаж алькагольных напояў, піва і тытунёвых вырабаў забаронены непаўналетнім да 18 год, а запалак і запальнічак – непаўналетнім да 15 год. З 18 год можна набываць любыя алькагольныя напоі.

Продаж алькагольных напояў забаронены гэтаксама асобам, што знаходзяцца ў стане алькагольнага ап'яненьня.

### Каму забаронена набываць алькагольныя вырабы?

Продаж алькагольных напояў забаронены ў школах, гімназіях, ліцэях, вышэйшых, сярэдніх спецыяльных, прафэсійна – тэхнічных навучальных установах, у месцах гандлю таварамі, што прызначаюцца для дзетак і падлеткаў, шэрагу іншых установаў культурна – бытавога і вытворчага прызначэньня, а так сама побач з гэтымі навучальнымі, культурна – бытавымі і вытворчымі установамі.

### Што лічыцца алькагольнымі напоямі?

Да алькагольных (сьпіртых) напояў адносяцца: гарэлка, лікёра-гарэлачныя вырабы, вінаградныя і пладовыя віны, розныя каньякі, шампанскае. Да алькагольных напояў не адносіцца піва і таму парадак ягонага продажу і спажываньня рэгулюецца асобна ад парадку продажу і спажываньня алькагольных напояў.

### Дзе забараняецца ужываньне сьпіртных напояў?

Ужываньне спіртных напояў забаронена на тэрыторыі усіх прадпрыемстваў, арганізацыяў, устаноў, на вуліцах, стадыёнах, скверах, парках, ува ўсіх відах грамадзкага транспарту, іншых грамадзкіх месцах. З грамадзкіх месцаў выключэньне зроблена толькі для тых установ гандлю і грамадзкага харчаваньня (розныя сталоўкі, кавярні, рэстарацыі), дзе дазволены продаж сьпіртных напояў на разліў. У сувязі з тым, што піва не адносіцца да сьпіртных напояў, вышэйпералічаныя абмежаваньні на яго не распаўсюджваюцца. Аднак адміністрацыі ўстаноў і прадпрыемстваў (у тым ліку адміністрацыі ВНУ і інтэрнатаў) могуць абмяжоўваць ужываньне піва на тэрыторыі сваёй установы.

### Якая адказнасьць прадугледжана за ўжываньне сьпіртных напояў у недазволеных месцах?

За ўжываньне сьпіртных напояў на працоўным месцы, а гэтаксама на тэрыторыі прадпраемстваў, устаноў, арганізацыяў, дзе працуе работнік, прадугледжана пакараньне ў выглядзе штрафу да двух мінімальных заробкаў.

Працоўным кодэксам прадугледжана магчымасьць звальненьня работніка, што ўжываў сьпіртныя напоі на працоўным месцы ў працоўны час альбо зьявіўся на працы ў стане алькагольнага ап'яненьня.

За ўжываньне сьпіртных напояў ў грамадзкіх месцах (за выключэньнем спецыяльна адведзеных для гэтага) грамадзяне караюцца папярэджаньнем альбо штрафам у адзін мінімальны заробак, а за тыя ж дзеяньні, учыненыя другі раз на працягу году пасьля накладаньня мераў адміністрацыйнага спагнаньня - у памеры да двух мінімальных заробкаў.

### Якая яшчэ прадугледжана адказнасьць за дзеяньні, што зьвязаныя з ужываньнем сьпіртных напояў?

За зьяўленьне ў грамадзкім месцы ў п'яным выглядзе, які зьневажае чалавечую годнасьць і грамадзкую маральнасьць, асобы могуць быць пакараныя штрафам у памеры да аднаго мінімальнага заробку. Аднак ніякіх крытэрыяў тых паводзін, што зьневажаюць чалавечаю годнасьць і грамадзкую маральнасьць не існуе (што, у прынцыпе лягічна), таму вызначэньне гэтых крытэраў ускладаецца ў кожным асобным выпадку на супрацоўнікаў міліцыі.

Ужываньне сьпіртных напояў падлеткам ўва ўзросьце да 16 год, а гэтаксама іхняе зьяўленьне ў п'яным выглядзе ў грамадзкіх месцах можа мець вынікам штраф, які накладаецца на бацькоў у памеры да двух мінімальных заробкаў.

### Ці прадугледжана якое-небудзь спецыфічнае пакараньне для студэнтаў ?

Напэўна, статутамі і правіламі ўнутранага распарадку ўсіх ВНУ забаронена ўжываньне сьпіртных напояў на тэрыторыі ВНУ. За двухразовае на працягу аднаго году парушэньне правілаў ўнутранага распарадку ВНУ ў заканадаўстве прадугледжана права адміністрацыі ВНУ адлічыць студэнта з навучальнай установы. Таму за неаднаразовае ўжываньне сьпіртных напояў на тэрыторыі ВНУ падчас вучэльных заняткаў студэнты могуць быць адлічаныя з ВНУ.

### Ці магчыма адлічэньне студэнта з ВНУ за ўжываньне алькаголю па-за межамі ВНУ альбо не падчас вучэньня ?

Правілы ўнутранага распарадку, за парушэньньне якіх можа быць адлічаны студэнт, абмежаваныя тэрыторыяй і часам працы ВНУ. Таму адміністрацыя ВНУ ня мае права тарнаваць аніякія санкцыі да студэнтаў, што ўжывалі сьпіртныя напоі па-за межамі ВНУ (нават калі яны гэта рабілі ў грамадзкім месцы і былі затрыманыя міліцыяй), альбо ўжывалі іх нават на тэрыторыі ВНУ, але ў той час, калі гэтая навучальная установа ўжо не працавала (пасьля сканчэньня ўсіх заняткаў).

Паводле «Студэнцкай думкі» №2 люты 2000
падрыхтаваў Андрэй Лукафобаў

# Студэнт і піва

**Як вядома, зпрадвеку велізарную частку вольнага часу і грошай студэнт добраахвотна выдаваў на піцьцё піва і іншых слаба і моцнаалькагалёвых напояў. Але сёньняшняя наша размова пойдзе менавіта пра піва – піва як культ, як аўтэнтычны сымбаль вольнага студэнцтва.**



Які можа быць адпа-чынак бязь піва? Вядома ніякі. Уявіце сабе наступную сытуацыю – Вы задзяўбаныя ўшчэнт нахабнымі выкладчыкамі ідзецё дадому з сумленна адседжаных лекцыяў. Агульны стан блізкі да стрэсу ці глыбокага дэпрэсьняка. Што рабіць у падобнай сытуацыі? На маю думку самы радыкальны сродак – нарвацца на банду мясцовых гопнікаў. Калі Вы майстар спорту па каратэ ці, напрыклад, сумо дык няма праблемаў – зьвяртаецеся да падрастаючых бандзюганаў з просьбай пазычыць цыгарэту, ці з пытаньнем "Чаму бяз шапкі ходзіце?" Эфект стоадсоткавы. Стрэс будзе імгненна зьняты, навучаныя гопнікі больш ня будуць трапляцца Вам на вочы, у раёне нармалізуецца крымінагенны стан, мажліва, мясцовыя праваахоўчыя органы прымуць Вас у шэрагі дружыньнікаў, магчыма, але... Гопнікаў можа раптоўна аказацца болей, у іх могуць апынуцца разнастайныя колюча - рэжучыя, ударна - раздрабляючыя прадметы, і, нарэшце, гопнікі самі могуць някепска біцца. Шанцы начысьціць табло і атрымаць па твары прыкладна 50/50. Непрыемна неяк. Хацелася б больш бясьпечнага адпачынку, не зьвязанага зь цяжкімі цялеснымі пашкоджаньнямі. На думку рэдакцыі "Канспэкту" такім сродкам якраз і зьяўляецца піцьцё піва ў дастаткова неабмежаваных колькасьцях, бо, як казаў клясык (кронікаў зацейлівая вязь не данесла нам яго імя) піва – напой амаль не алкагольны, душу весяліць і целу лёгкасьць дзіўную надае да вялікіх учынкаў схіляючы.



Такім чынам піва. Пачнем, бадай, з таго,што можна набыць на нашым неабсяжным спажывецкім рынку за крывёй і потам заробленую стыпендыю. Аказваецца, ня так і шмат.Пачнем зь мясцовых гатункаў. Вытворчасьць Полацкага бровара (калі сумленьне дазваляе яго так называць) абмяжоўваецца пяцьцю (на 10.09.2000) гатункамі: "Аматарскае", "Каўбой", "Ячменнае", "Арыён", "Канкурэнт". Кошт вышэй-згаданых вырабаў рэдка зашкальвае за 250 сувэрэнных беларускіх рублікаў. Здавалася б танна, але, як кажуць людзі – скваплы плоціць двойчы. Нашая рэдакцыя, прааналізаваўшы на конкурснай аснове піўны матар'ял Полацкага піўзавода, адназначна сышлася на меркаваньні, што самым латвым і дастойным гатункам зьяўляецца "Ячменнае". Дакладней кажучы, ячменна - рысавае, бо на самой справе адным з асноўных кампанэнтаў сучаснага беларускага піва зьяўляецца рыс, за выключэньнем, бадай што, "Ракаўскага Бровара", "Берасьцейскага" ды "Рэчыцкага", якія варацца з соладу ды ячменю. Акрамя вышэйзгаданых вырабаў Полацкай вытворчасьці ў продажы сустракаецца і лідзкае піва, прычым разнастайныя гатункі. Кошт гэтага прадукта часамі дасягае 300 руб, але якасьць адпаведна вышэйшая за полацкае. Але, у параўнаньні зь мінулымі часамі (1996-98 гг.) лідзкае таксама моцна здае пазыцыі па смакавых якасьцях. Прадукцыя стольных менскіх бровараў бывае прадстаўлена гатункамі "Казыно" і "Крыніца", якія займаюць прамежкавы стан паміж "Ячменным" і "Лідзкім". Акрамя прадукта айчыннай вытворчасьці непатрыятычна настроенае студэнцтва можа піць таксама піва расейскіх гатункаў. На першым месцы тут, безумоўна, "Балтыка" ад адзінкі да дзевяткі, акрамя гэтага "Мядовае лёгкае" "і "Мядовае моцнае" у дзвухлітровых плястыкавых бутэльках. Кошты на "Балтыку" у піўных крамах горада вар'юююцца ад 450 да 1500 руб за пляшку. Але і якасьць адпаведна непараўнаўча лепшая, ладнейшае дызайнэрскае афармленьне бутэлькі. Апрача "Балтыкі" сустракаюцца розныя там "Старыя мельнікі, "Сьцяпаны Разіны", "Неўскія", "Юнкерскія" дый тузін іншых гатункаў і назваў. Наконт якасьці апошніх інфармацыяй не валодаем, бо, нягледзячы на рэклямныя сьцьвярджэньні кшталту"Стары мельнік – правільнае піва" і "Залатая бочка – трэба часьцей сустракацца", маем трывалую прыязнасьць да "Лідзкага", "Ячменнага" і "Балтыкі".Таго ж і Вам раім.



Зараз колькі словаў аб тым, дзе ў родным унівэрсытэцкім горадзе можна якасна папіць піва да, пасьля і замест лекцыі ці сэмінару. Найпярвейшай "кропкай" прыемнага пазбаўленьня

грошай пад піўко зьяўляецца шырока вядомая сярод студэнцтва "ЧЭБУРЭЧНАЯ", якая ў сувязі з геаграфічнымі ўмовамі знаходзіцца літаральна ў дзесяці кроках ад роднага ўнівэра. Дзе? Як, ты ня ведаеш? Ганьба табе, які ж ты студэнт. Запытайся ў даведцы (Стары корпус, другі паверх, каб. №00). Звычайна ў "Чэбурэчнай" бывае як бутэляванае так і разьліўное піва, прычым часамі дастаткова якаснае. Акрамя піва там ёсьць гарачыя чэбурэкі, незабыўная менах у інтэр'еры, акрамя гэтага, асноўны кантынгент дадзенай піўнухі – пралетарыі ды тыя ж гопнікі. Дарэчы, папіць піва зь сябрамі ці каханай (каханым), можна і ў самой "Белай Высьпе", прынамсі там увечары працуе бар у залі рэстарацыі. Праўда, піва там ня самае таннае ("Балтыка" 1200 – 1500 руб. – 0,5 л.), але шыкоўная заля, прыгожыя ветлівыя афіцыянткі, прыемная музыка… Да катэгорыі нятанных месцаў піцьця піва адносіцца бар гатэлю "Нафтан", які працуе з16.00 штодня (дарэчы, для тых хто ня ведае, сёлета "Нафтану" спаўняецца 5 гадоў). Піва там добрае: можа быць нямецкае, бывае чэскае, бывае і роднае беларускае, але заўсёды разьліўное і якаснае. Да



цавацца і пяльменямі, і бульбай фры – мэню дазваляе. Акрамя вышэйпазначаных кропак, прызначаных для, так бы мовіць, стацыянарнага ўжываньня цудоўнага піўнога эліксыру, практычна ў кожнай буйной спажывецкай краме можна набыць разьліўное і бутляванае піва. Бліжэйшымі да ўнівэру зьяўляюцца, напэўна, "Паўлінка", "Пралеска", "26", "Камсамольская" – ва ўсіх гэтых месцах можна набыць піва. Толькі не забудзьцеся пра тару для разьліўнога. Хаця, дзеля гэтага можна скарыстацца пакункам, ну тут ужо ня мне Вас вучыць, самі з вусамі. Піўнымі зразумела.

На гэты раз, бадай што, ўсё. Але ня ўсё ўвогуле. Інфармацыю для роздумаў аб піве (што думаць-піць трэба), Вы заўсёды знойдзеце ў наступных нумарох "Канспэкту". Трохі абагульняючы вышэйнапі-санае варта адзначыць, што пры наяўнасьці вольных грошай месцаў для стацыянарнага піцьця піва шмат. Але, калі ты сапраўдны студэнт, дык грошай у цябе, зразумела, ня шмат, тым больш некаторым не падабаецца замкнёная прастора, хочац-

атмасфэра сярэдняй піўнухі і шмат іншага цікавага. Адным зь вялікіх недахопаў зьяўляецца тое, што у бары нельга паліць. Складаецца нават уражаньне, што адміністрацыя "Чабурэчнай" заключыла тайнае пагадненьне з рэктарам ПДУ аб татальнай забароне паленьня. Таксама мне Молатавы – Рыбэнтропы знайшліся! Калі ты яшчэ там ня быў – зазірні абавязкова, хаця б дзеля ўласнага досьведу. Наступнай даступнай кропкай зьяўляецца піўны бар "Буліт". З піва там толькі "Балтыка", але можна смачна паесьці, ці набыць да піва гарэшкі і чыпсы. Кошты ў гэтай піўніцы адпаведна болей за "чэбурэчныя", але ўнутранае аздабленьне бара вельмі прыстойнае і заслугоўвае высокай адзнакі. Што немалаважна, у "Буліце" ў адрозьненье ад "Чабурэчнай" можна паліць у залі, не выходзячы на вуліцу. Адразу бачна, што адміністрацыя клапоціцца аб кліенце. Дробязь, але прыемна. Наступным месцам, дзе можна дастаткова спакойна заправіцца зьяўляецца піўбар каля рэстарацыі "Белая Выспа" пад кодавай назвай "Жар - Птушка". Асартымэнт клясычны – "Лідзкае", "Ячменнае", урозьліў і ў бутэльках. Праўда зьнешні выгляд наводзіць на думку аб зь-

піва можна набыць гарэшкаў ці гарачыя канапкі зь мясам і сырам. Cool адным словам. Рай, дый толькі. Кошты ў бары, канешне, далёка не малыя, але таксама



добрая якасьць сэрвісу, файны інтэр'ер, музыка, тэлевізар, і г. д. Адным словам, лепшага месца, дзе можна адсьвяткаваць нешта пад добрае піва разам зь сябрамі, альбо з дзяўчынай, ня зной-дзеш. Прыемная мясьціна, у якой можна папіць і паесьці пад піва існуе ў спажывецкай краме "Бярозка", называючыся загадкавай назвай "Бістро". Унутранае аздабленьне – прыемнае, асабліва ўражваюць карціны на сьценах, акрамя гэтага варта адзначыць пэўную дэмакратычнасьць коштаў: яны ня надта кусаюцца. Піва самае рознае, бывае і разьліўное. Пад піўко можна падма-

ца вольнага паветра, дожджыку, сонейка, шуму дрэваў і г. д. (каму на што хопіць фантазіі). Так што наперад, па разьліўное "Лідзкае". І не забудзьцеся пра аднаразавыя кубачкі і што небудзь салёненькае да піва. Вольная прырода нецярпліва чакае студэнтаў. Толькі не забывайцеся, што на лекцыі таксама часамі варта хадзіць, хаця б ужо для таго, каб выкладчык не забыўся ды запомніў Вас ў твар. Піце піва ныне, ў шчасьлівай гадзіне вольнае студэнцтва, і няхай у вашым жыцьці гэтых шчасьлівых піўных гадзінаў будзе паболей!

Сяржук Войніч

# «Культура»

***Гісторыка – культурніцкі клюб "Княжыч" існуе ў Навапалацку ўжо шосты год. Штогоду сябрамі " Княжыча" ладзяцца традыцыйныя беларускія каляндарныя сьвяты, такія, як Купальле, Каляды, Гуканьне Вясны, Жаніцьба Цярэшкі ды іншыя. Але сёлета "Княжыч" быў запрошаны на сьвяткаваньне Купальля ў якасьці госьця. Гаспадаром сьвята, якое адбылася ў ноч з 7 на 8 ліпеня сёлета ў мястэчку Нарва Беластоцкага ваяводзтва, была Польская моладзевая арганізацыя "Зьвяз Беларускай Моладзі".***

*Запрашэньне прыняць удзел у сьвяткаваньні Купальля ў Польшчы ня было нечаканым, але, зрабіўшы пашпарты літаральна ў апошні момант, княжычы ў колькасьці 9 чалавек ад'ехалі з Полацку на цягніку ў накірунку заходняй мяжы Беларусі. Прайшоўшы мытню за колькі хвілінаў яны ўжо сядзелі ў цягніку і з хваляваньнем чакалі таго цудоўнага моманту, калі колы нашага вагона пераколяцца праз беларуска — польскую мяжу і мы апынемся у "панскай" Польшчы. Але, відаць, адчуўшы наш настрой, беларускія памежнікі досыць доўга мурыжылі пасажыраў, нібыта не жадаючы адпускаць суайчыньнікаў са шчодрай беларускай зямлі на Дзікі Натаўскі Захад.*

✵ ✵ ✵

*Беласток сустрэў нас добрым надвор'ем, якое раптоўна пачало мяняцца сустрэўшы ў Нарве праліўной залевай. Арганізатары Кшыштаф і Ігар — сама ветлівасьць — засялілі нас да мясцовых абарыгенаў, у прыемны двухпавярховы дом, гаспадыня якога досыць добра размаўляла па беларуску. На наступны дзень мы дасканала дасьледвалі мястэчка, асабліва крамы, у якіх можна было набыць піва і іншыя слабаалькагольныя напоі. Дзень паступова хіліўся да вечару.*



*Каля 18 гадзін нас адвезьлі на месца сьвяткаваньня Купальля і мы на ўласныя вочы пабачылі, што мае на ўвазе пад Купальлем студэнцкая моладзь у Польшчы.*



*Перад нашымі здзіўленымі вачыма раскінулася поле, на якім стаяла сцэна з аграмаднымі 10 кіляватнымі калонкамі, у цэнтры поля стаяла драўляная прыбіральня зьбітая са сьвежых дошак. Пад пачатак сьвяткаваньня перад сцэнай тусавалася каля дзьвюх тысяч чалавек, прыкладна столькі ж мірна пілі піва (страшна дарагое, дарэчы) і паядалі мясцовыя запасы салодкай ваты і лёдаў — ідылія, адным словам. Як акаказалася, наш сьмелы "Княжыч" адкрываў канцэртовую праграму сьвята. Дарэчы, апроча нас у Купальлі бралі ўдзел такія монстры незалежнай Беларускай музычнай тусоўкі, як NRM, Krivi, "Уліс", "Новае Неба", "Z", праект "Шчодры Вечар", Кася Камоцкая ды іншыя. Варта адзначыць той факт, што "Княжычы" былі адзіным гуртом, які рэпрэзэнтаваў на Беластоцкім Купальлі аўтэнтычны беларускі фольк. Што было ў начы цяжка перадаць словамі. Адны, як кажуць, эмоцыі. Уявіце сабе — піва "Дойліды"(лепшы Бела-стоцкі гатунак), ма-цёры Рок, і пошукі папараць - кветкі. У мяне склалася ўражаньне, што не шукалі гэтую самую кветку толькі лайдакі, ды й тыя, напэўна, ня ўсе. Думаю, папараць доўга яшчэ ня будзе расьці на шчодрай Беластоцкай зямлі.*

*Зьяжджаць на Беларусь было балюча і цяжка, але застаецца надзея і жаданьне паехаць на наступнае, і наступнае, і наступнае лета.*

**Ярамір Сварогаў**

**Тлумачыць што такое Internet, думаю, ня мае сэнсу - гэта ведаюць зараз нават дзеці, а вось як студэнту ПДУ атрымаць доступ да Internety - паспрабуем распавесьці ў наступным артыкуле.**

Internet – ці "сусветнае сеціва" неверагодная скарбніца усялякай інфармацыі, дзе знаходзіцца вельмі шмат карыснага і для студэнта. Напрыклад, ёсьць цэлы шэраг сайтаў, дзе можна сьцягнуць ужо гатовы рэфэрат па амаль любую тэму, ці нават курсавую работу, але аб гэтым ніжэй. Спачатку паспрабую рас-тлумачыць - як можна студэнту атрымаць доступ у ПДУ да ЛВС (лякальная вылічальная сетка), а празь яе да Internet і E-maily (электроннай пошты).Па-ершае, кожны студэнт які, вучыц-ца ў ПДУ, мае права атрымаць (зразумела, з дазволу адміністрацыі) доступ да ЛВС і зарэгістравацца яе карыстальнікам. Дзеля гэтага трэба напісаць на імя спадара Оськіна (для таго, хто яшчэ ня ведае: вышэйузгаданы спадар зьяўляецца прарэктарам па вучэбнай працы) заяву. Пасьля таго, як сп. Прарэктар накладзе сваю рэзалюцыю "не возражаю", вы мусіце пайсьці з гэтай паперкай у Аддзел Тэхнічнай Эксплюатацыі Кампутарных Сетак, (далей АТЭКС). Дарэчы, АТЭКС знаходзіцца ў будынку старога корпуса на трэцім паверсе. Дык вось, падымаецеся вы па гэтай самай лесьвіцы на трэці паверх, паварочваеце ў правы бок і стукаеце у першыя дзьверы з права. Калі вам не адчыняць - не звяртайце увагі: сьмела заходзьце. Адразу ля уваходу стол, на стале кампутар й за гэтым сталом сядзяць дьзве прыгожыя дзяўчыны – гэта сыстэмныя адміністратары (ваш асабісты бог ці д'ябал – хто ведае?). Аддаўшы ім паперу, вы атрымаеце для запаўненьня яшчэ адзін блянк, пасьля запаўненьня якога вы мусіце ў трохдзённы тэрмін атрымаць сваё сыстэмнае імя, 50Mb сыстэмных рэсурсаў, свой адрас электроннай пошты й магчымасьць выхаду ў Internet. Віншую, цяпер вы паўнапраўны карыстальнік ЛВС, і сьмела можаце дапісаць у вашу візытоўку адрас свайго E-maily і потым з гонарам раздаваць іх налева і направа. Для карыстальнікаў ЛВС адміністрацыя ПДУ выдзяліла шэраг аўдыторыяў, дзе вышэй узгаданыя могуць сумленна папрацаваць на сваю карысьць, але, на жаль часу, які адведзены пад гэтую добрую справу, ня надта шмат.. Напрыклад, у 342 й 347 аўдыторыі (стары корпус), вы можаце працаваць з 18-00 да 22-30. Атрымліваецца ўсяго чатыры гадзіны. У 412 й 64 аўдыторыях (новы корпус) выдзеленага часу не на шмат болей. Але, як высьвятляецца – за гэты час студэнты пасьпяваюць ня толькі нацягаць малюнкаў з порнасайтаў, пагуляцца ў кампутарныя гульні ды завесьці пару-тройку знаёмстваў праз CHAT, але і ўзламаць кампутарную сетку дзе-небудзь у Амэрыцы. Менавіта таму, як тлумачаць зараз па расейскаму тэлебачаньню: "собственность не только право, но и ответственность" - у карыстальніка ЛВС таксама ёсьць абавязкі і правілы, якія ён павінен выконваць. Самае галоўнае гучыць так: - **NO GAMES!** На вашым сыстэмным рэсурсе не павінна быць аніякіх гульняў – за гэтым сыстэмныя адміністратары сочаць вельмі ўважліва. Пасля першага парушэньня гэтага правіла вам абрэжуць доступ на два месяцы, пасля другога доступ да ЛВС зачыняць ўвогуле. Таму, як кажуць, гуляйцеся але не трапляйцеся!






Андрэй Бамелкаў

# РЭКЛЯМА

## Хутка!

## Новы праект:

Незалежнае выданьне навапалацкіх ідыетау

## "ZADVINKI"

Такога яшчэ не было!!!

Калі ты не падобны на іншых,
калі Ты усе робіш ня так,
як трэба БОЛЬШАСЬЦІ,
калі ты сапрауды АСОБА -
гэта газэта для ЦЯБЕ!!!

Чакайце НАС
у кастрычніку

Па "Задвінкі"
зьвяртайцеся да
распаусюджвальнікау
"КАСПЭКТУ"




**Рэдакцыя незалежнага выданьня "Канспэкт" віншуе ўсіх студэнтаў з пачаткам навучальнага году а таксама з першай стыпендыяй!!!**

**Няхай жыцьцё Вам усьміхаецца, выкладчыкі будуць лагоднымі а настрой заўсёды добрым!!!**



## З жыцьця студэнта анекдоты



Па калідоры ВНУ ідзе прафэсар. Насустрач студэнт: - Добры дзень, прафэсар. Можна запытацца? - Так, канешне, пытайцеся, малады чалавек. - Скажыце прафесар, Вы калі спаць кладзецеся, бараду на коўдру ці пад коўдру кладзеце? Пасьля паўзы - Да, ведаеце, я неяк ня думаў пра гэта.- Ну прабачце калі ласка. Разыйшліся. Праз тыдзень ізноў сустракаюцца. Прафэсар з кругамі пад вачыма і пазеляненым тварам падбягае да студэнта і кажа: - Ах ты сволач, тыдзень ужо ня сплю. І так ня зручна, і так ня зручна!

Аб'ява ў заапарку: "Страўсаў не пужаць!!! Падлога бетонная".

На іспыце. Прафэсар: - Вы трое, хопіць ужо перадаваць адзін аднаму запіскі!
Студэнт: - А гэта не запіскі, гэта мы ў прэферанс гуляем. - А. Ну тады прабачце.

Лекцыя па эканамічнай тэорыі. Выкладчыца задае пытаньне студэнту: - Вось уяві, я даю табе $200. $50 ты аддаеш сваёй суседцы з правага боку, $50 з левага і яшчэ $50 суседке зпераду. Што з гэтага атрымаецца? Студэнт: -Оргія....

Залік па логіцы, сытуацыя клясычная - студэнт нічога ня ведае. Прафэсар кажа – Ну што, шаноўны, "нездавальняючы" Вам ставіць?, што будзем рабіць? Студэнт: - Прафэсар, а давайце так. Я задаю Вам тры тэматычных пытаньні, калі Вы адказваеце, то я атрымліваю "2" калі не - то "5" Ну як? – Добра, давайце вашыя пытаньні.
- Першае: што такое законна, але не лягічна. Другое: што такое лягічна, але не законна. И трэцяе: што такое незаконна і не лягічна?
Прафэсар думае 30 хвілін, бярэ залікоўку і ставіць "5". – Ну, малады чалавек, распавядайце.
- Прафэсар, у Вас ёсьць прыгожая маладая жонка, Вы стары і хворы. Гэта законна, але не лягічна. У Вашай жонкі ёсьць малады прыгожы каханак. Гэта не законна, але лягічна. Але тое, што Вы гэтаму каханку толькі што паставілі "5" гэта і не лягічна, і не законна!!!

Ўначы жонка прачынаецца і бычыць, што муж стаіць на кухні каля лядоўні ды пытае: "Да Бібірова не падвязецё?", потым паўза, зачыняе дверцу і кажа "Добра, зараз іншую папутку злаўлю". І так некалькі разоў. Жонка пайшла спаць, нараніцу заходзіць у кухню. Лядоўні няма, а на стале цыдулка: "Зьехаў да Бібірова".

Кантактная адрэса: Наваполацак-8,
п/с 26, тэл/fax 55-32-22
E-mail:bamelc@usiaslau.lingvo.vitebsk.by

Канспэктавалі: Заснавальнікі Андрусь Храпавіцкі,Виталь Броўка. Рэдакцыйная Рада Андрэй Беллерт, Сяржук Балай, Павел Дзенісёнак.
Нумар выдадзены пры тэхнічнай дапамозе ГАКАІ«УсяслаўЧарадзей».
Выдаецца на правах рукапісу. Наклад 299 асобнікаў